# Калыханка

Верш Зм. БЯДУЛІ

Рыс. К. ГЕДДА

Кукарэку, певунок!
Пашый Янку кажушок,
Шапачку бабровую,
Боцікі казловыя.
Я пашыю, я зраблю,
Бо я хлопчыка люблю.
Мяў-мяў, рабенькі каток!
Схадзі, коцік, на таржок,
Купіш абаранаачкаў,
Будзе есці Янычка.
І пайшоў ён і купіў,
І малога накарміў.

Му-му, трацячок-бычок!
Ты да пчол схадзі ў садок.
Ад пчалінай мамачкі
Нясі мёду Янычку.
І пайшоў у сад бычок,
І мядку прынёс жбанок.
Го-го, жвавы гусачок!
Зрабі Янку ветрачок
З тваіх пер'яў точаных,
Сонцам пазалочаных.
І зрабіў сваяк-гусак
З пер'яў хлопчыку вятрак.

Піск-піск, мышка-мышанё!
Збегай зараз на гумно,
Зрабі Янку граечку,
З стружак балалаечку.
Балалаек зраблю пяць,
Будзе Янычка іграць.
Ты, сыночку мой, засні.
А-ля-лю-лі, а-лю-лі.
Пад тваёй калыскаю
Кіска дрэмле з мышкаю.
Спяць браток і певунок,
Спіць і жвавы гусачок.
Вось ідзе ён, вось і ён—
У кашульцы белай сон.
Казкі, байкі баюцца,
Вочанькі зліпаюцца.
Не шуміце... ну, ну, ну!
Хлопчык Янычка заснуў...

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
ВЕРАСЕНЬ 1940 г. № 9






# Карэнні

М. ЛУПСЯКОЎ

*Рыс. ЗАБОРСКАГА*

Добра летам на лужку! Трава—у пояс. Жоўты званец калакольчыкамі вызваньвае, дзікі гарошак сцелецца па зямлі. Прыгаюць конікі, дзеркачы па кустах бегаюць.

Ходзіць Толік кожны дзень на лужок. Хата іхняя на ўскраі вёскі, зусім блізка адсюль. Толіку—восем год. Тварык яго кругленькі, носік кірпаты, а вочы маленькія, іскрыстыя. Гэтай вясною Толік першы клас скончыў. На лужку ён калекцыі робіць з жучкоў і казявак, кветкі прыгожыя збірае.

Аднойчы да суседа прыехаў з горада сын яго—студэнт. Убачыў Толіка на лужку, пайшоў да яго. Прывітаўся за руку, як з дарослым. Толік тут-жа, ля куста, калекцыі яму свае паказаў і букет, што назбіраў толькі што. За калекцыі студэнт пахваліў хлопчыка, а да букета яшчэ больш прыглядацца пачаў. Асабліва яго зацікавілі белыя пахучыя кветкі. Ён і нюхаў іх некалькі разоў і на далоні расціраў.



— Ды тут-жа растуць валер'янавыя карэнні!—урэшце сказаў ён.—З іх робяць зелле. І шмат ты ведаеш гэтых кветак?

— А вунь у нізіне ад іх зямля пабялела.

— Хадзем туды.

У нізіне студэнт не зрываў сцяблы, як Толік, а пачаў ірваць іх разам з карэннем.

— Валер'янаўка,—зноў сказаў ён незразумелае Толіку слова.—Вось што, хлопец, рві ты гэтыя карэнні і кладзі ў сухое месца. Як падсохнуць крыху, нясі ў кааперацыю. За іх даюць кнігі, алоўкі і сшыткі.

Студэнт паехаў у горад. Толік па-ранейшаму бегаў на лужок. Зараз ён збіраў не толькі калекцыі, але і тыя карэнні, якія паказаў яму студэнт. Ён іх звязваў у пучкі і клаў за трубу, на печ. Хутка карэнняў сабралося многа і Толік вырашыў занесці іх кааператару. Ён вельмі баяўся, што студэнт пасмяяўся з яго і таму, калі прышоў у кааперацыю, дык моўчкі стаяў у кутку, аж пакуль не выйшлі ўсе пакупнікі. Тады Толіка заўважыў вусаты прадавец.

— А табе чаго, хлопчык?—запытаўся ён.

— Вось корані,—сказаў Толік і высыпаў усе пучкі на прылавак.

Кааператар узяў адзін пучок у рукі, панюхаў яго і чыхнуў.

— Бач ты, валер'янаўка,—сказаў ён і ўсміхнуўся.—Вось малайчына!

Ён кінуў карэнні на вясы. Іх было аж два кілограмы з лішкам.

— Што-ж табе даць за іх? Кнігі ці грошы?

— Кнігі і сшыткі,—усё яшчэ не верачы, сказаў хлопчык.

Дадому Толік вяртаўся з «Чытанкай» і сшыткамі.

Прышла восень, зноў пайшоў Толік у школу. Зараз ён чытаў і пісаў у кнізе і сшытках, якія даў яму кааператар. Пра дзіўныя карэнні хлопчык амаль забыўся. А між тым яны мелі сваю гісторыю. У той час, як Толік пайшоў дадому, вусаты прадаўшчык склаў іх у скрынку і на другі дзень адвёз на склад у раён. На складзе ляжала многа такіх карэнняў. Іх адвезлі на станцыю. З гэтага часу пачынаецца іхняе новае падарожжа. Скрыню з карэннямі грузчыкі паставілі ў таварны вагон. Некалькі дзён ехалі карэнні чыгункай. Але вось у адным вялікім горадзе вагон адчапілі ад састава. Вельмі хутка вагон пачалі разгружаць. Скрыню з карэннямі паклалі на грузавыя аўтамашыны і завязлі на завод. Там карэнні прайшлі сотні рук. Іх спачатку мылі, потым пусцілі ў круглыя чаны. Адтуль карэнні выйшлі зусім чыстымі і прыгожымі. Затым з іх пачалі выціскаць сок. Сок гэты ішоў па трубачках, якія мелі адтуліны. Над кожнай адтулінай стаялі маленькія бутэлечкі. Калі бутэлечка напаўнялася сокам, яе забіралі і затыкалі пробкай, а на яе месца ставілі новую, пустую.

Карэнні больш не існавалі. Існавалі бутэлечкі з жоўтай вадкасцю. Іх запакавалі ў скрыні, як калісьці пакавалі карэнні, і адправілі ў многія гарады і сёлы.

Надышла зіма. Кожны дзень ішоў снег, густы і сыпучы. У адзін з такіх дзён захварэла Толікава маці. З раёна прыехаў доктар і агледзеў хворую. Ён забараніў ёй хадзіць, сказаўшы, што ў яе слабое сэрца. Пасля доктар выпісаў ёй рацэпт і пакінуў бутэлечку кропель, якія Толікава мама павінна была кожны дзень абавязкова піць. Кроплі дапамагалі. Мама пачала папраўляцца. Аднаго разу яна папрасіла Толіка, каб ён накапаў ёй з бутэлечкі дзесяць кропель. Хлопчык узяў бутэлечку ў рукі і на паперцы, што была прыклеена да яе, прачытаў:

— Валер'янавыя кроплі!

І адразу хлопчык успомніў лужок, белыя пахучыя кветкі і студэнта.

— Дык вось што гэта за карэнні, вось якое з іх зелле робяць! — здзіўлена ўскрыкнуў ён.






Было неба то сіняе, то ружовае,
а пад ім малая хатка рыбака...
І было, як неба, возера шырокае,
шумела там заўсёды асака.

А ў глыбокай тоні
            жыў Шчупак сярэбраны,
з вострымі зубамі, хітры, як купец.
Паляваў няраз за ім стары Дзед з сеткамі
толькі дарма
        муцячы
            возерную гладзь.

Часам ён засядзе за ракітай з вечара
і накрыша зораў—залатых зярнят.
Думае і цешыцца: на прыманку выплывеш!
зораў не паласаваць—не уцерпіш, брат!

Ды памалу дрэмле Дзед стары над возерам.
А ў глыбокай тоні слухае Шчупак,
як над сонным берагам ноччу заваражаны
ціха барадаты захрапе рыбак.

Выплыве тады ён
            серабрыста кружачы,
ціха так, каб хваляў сонных не збудзіць,
і з-пад сетак сініх вуснамі сцюдзёнымі
пачынае зоры Дзедавы лавіць.

Перш ён зловіць Сітца,
после і Мядзведзіцу,
вып'е сцежку зорную вясняных сноў,
выцягне на'т з сетак абаранку месяца...
І зноў, ціха кружачы,
ападзе на дно.

І як толькі сонца ў барадзе сівеючай
азалоціць белы серабрысты снег,
і як толькі вецер раніцай за пазухай
шчакатаць мяккімі пальцамі пачне,—

Дзед прачнецца
спуджаны,
паглядзіць на возера,—
усе зоры выпіў, вылавіў Шчупак...
З гора замахае доўгімі рукамі,
быццам папярхнуўшыся мукой вятрак.

Ды пачне гразіць ён, ў сеткі ублытаўшыся,
ідучы дарогаю праз сенажаць...
Дзесь гамоняць звонка кнігаўкі і чэпікі,
рассыпае вецер жвірам песню жаб.

І здаецца Дзеду, што смяецца возера
ў сонцы расцвітаючы, як чырвоны мак,—
хіліцца, рагоча асака зялёная,
што яго, старога,
ашукаў Шчупак.






АННА ХАХУТАШВІЛІ

*Рысункі К. ГЕДДА*

Вінаград ужо чырванеў, нібы янтар. Дулі, яблыкі і персікі цяжка адцягвалі веццє. Сад, нібы лес,—шэсцьдзесят гектараў. Калгаснікі падняліся досвіткам, запраглі арбы і, пад вясёлае парыпванне павозак, паехалі збіраць плады.

Дрэвы сустракалі іх распрасцёртымі веццямі.

— Паглядзіце, як прыгожа, ах як прыгожа! Проста шкада чапаць!—завохкалі калгаснікі.

Але хутка ў садзе весела зазвінелі іх песні і смех. Лепшыя, вопытныя зборшчыкі знялі абутак і ўзлезлі басанож на дрэвы. За імі на вяроўках асцярожна падцягнулі кошыкі. Дрэвы журботна пакалыхваліся верхавінамі, і ў момант усе кошыкі даверху напоўніліся, і ўжо асцярожна апускаюцца ўніз.

На зялёных лужках каля дрэў выраслі горы чырвоных і жоўтых яблык. Тут і райскі рэнет, і антонаўка, і шафран, і банан, і бельфлор.

Караванам пад'ехалі арбы, прывезлі скрыні, стружкі, кошыкі.

Дзяўчаты і кабеты наляцелі на іх хваляй, расхапілі і расцягнулі ў адзін момант. Хто сартыруе плады, хто асцярожна пакуе лепшыя яблыкі ў пахучыя белыя скрыні.

Але работу не так лёгка перамагчы.

Горы яблык, айвы і персікаў растуць усё вышэй і вышэй.

Ужо хутка абед, і калгасныя рэбяты часта пачалі забягаць да повара.

У кутку сада палае вялізны, як у казках, касцёр. Ля кастра ходзіць повар у белай шапцы і белым фартуху.

У вялікіх катлах варыцца далікатнае мяса маладога баранчыка. Шашлыкі з памідорамі і бадрыджанамі ціха шыпяць на вуголлях.

Рэбятам даўно хочацца распытаць: ці хутка будзе абед? Ці не патрэбны повару памочнікі? Ці добрае мяса для шашлыкоў? Ці не нарваць яшчэ агуркоў і зялёнай цыбулі?

Але ў повара бровы страшэнна нахмураны. Твар суровы, сярдзіты. Губы шэпчуць з прыкрасцю:

— Як-жа так? Як-жа злодзей пальцам нічога не закрануў, а казла чамусьці звёў?.. Не, тут нешта не так... Тут нешта не так!..

Повару вельмі крыўдна. Што з таго, што абед будзе смачны і сытны? Старадаўняга спрадвечнага звычая—у свята збору ўраджая пачаставаць казліным мясам з душыстай айвой—ён не выканаў. Не даглядзелі калгаснікі, і ўначы ў іх з пуні звялі барадатага казла.

Вось і злуе повар, і наточвае аб камень нож так злосна, што рэбяты не адважваліся спытаць што-небудзь пра абед.

Урэшце, повар таргануў вяроўку каля звона. Звон захістаўся, заспяваў, загудзеў і яго медны гук звонка адгукнуўся далёка ў горах.

З усіх бакоў сада пацягнуліся калгаснікі і стракатым кветнікам размясціліся пад стогадовым арэхавым дрэвам.

Выпілі па чарцы чырвонага віна—за добры ўраджай, потым за шчасліваe жыццё і заспявалі. Заспявалі плясавую «цангала». Запляскалі ў далоні і, як арол над горнай макаўкай, малады ордэнаносец Джыбраіл горда паплыў па кругу.

Яшчэ гучней запляскалі ў далоні, яшчэ весялей заспявалі, калі ў круг выскачыла маладая калгасніца Саломе.

Наскакаліся, наеліся, адпачылі ў цяньку пад дрэвамі і яшчэ з большым запалам узяліся за работу.

Скрынкі з фруктамі ўзвышаліся, нібы Каўказскі хрыбет.

Па шасейнай дарозе, накіроўваючыся к гораду Горы, пацягнуліся пад вечар абоз за абозам.

Увосень так і цякуць вераніцы арбаў з пладаноснай Карталініі. Вязуць гародніну, фрукты і ягады на Горыйскі кансервны завод. А з заводу прыгожыя банкі з фруктовым кампотам і фруктовымі кансервамі рассылаюцца па ўсяму СССР.

К вечару работа сціхла. Зоркі ярка паблісківаюць на сінім небе. Калгаснікі пакрылі горы пахучых пладоў сенам, каб начная раса не намачыла іх. Падабралі кошыкі, стужкі, усякую дробязь, паклалі ўсё гэта на сваё месца і разышліся.

Але як толькі ўзняўся месяц з-за высокай гары, як толькі заліў ён срэбрам ціхія гаі, усе калгаснікі зноў сабраліся ля ракі пад шумлівымі чынарамі.

Паспявалі, пагаварылі, потым на палянцы зноў зайгралі на гаргуры, зазвінелі бубны. Але не ладзілася з танцамі. Сярод танцуючых не было вясёлай Саломе, той самай Саломе, што лепш за ўсіх умела працаваць на скотным двары, лепш за ўсіх танцавала, была душой усяго калгаса.

— Саломе! Саломе!—закрычалі калгаснікі.—Дзе-ж ты, Саломе?

Саломе была дома. Яна злосна трасла за плечы свайго маленькага Сандро і моцна крычала:

— Як ты адважыўся, як ты адважыўся, брыдкі хлапчук, асароміць мяне перад усім калгасам! Як-жа я зараз на вочы ім пакажуся?

— Ды гэта-ж не ты, а я сам... Зразумей, мама, ён так плакаў, ён так прасіў...— і хлопчык сам горка заплакаў.

У дзверы пастукалі.

— Саломе, Саломе, ідзі! Усе сабраліся на лужку, цябе адной нехапае.



— Зараз!—крыкнула Саломе і загадала сынку:

— Бяры казла на вяроўку, Сандро, і ідзі, вярні яго грамадзе.

Вось ідзе высокая, моцная Саломе, за ёй маленькі, нібы пруцік, Сандро, а за ім—барадаты калгасны казёл. Ідзе казёл і хвосцікам пакручвае:

— Бэ-э-э!

— Глядзіце, казёл знайшоўся!

— Дзе-ж знайшлі яго? Хто прывёў?—пачуліся галасы.

— Хай Сандро сам раскажа, як ён адважыўся пакінуць на свята ўраджая калгас без казляціны,—сурова сказала Саломе, і хлопчык з казлом апынуўся ў кругу людзей, якія ўжо ўсміхаліся.

— За лета мы з ім здружыліся. Я купаў яго, чысціў, часаў яму бараду. Ён такім другам стаў, што часта, уцёкшы з палянкі, чакаў мяне каля школьных варот,—дрыжачым голасам пачаў расказваць хлопчык.

— Бэ-э-э!—пацвердзіў усё гэта казёл і коса зірнуў на калгаснікаў.

— Учора ён мне прысніўся: нібы глядзіць мой казёл праз акно, горка плача і просіць мяне: «Выратуй, родны, выратуй! Гэта-ж рэзаць мяне хочуць». Я ўстаў яшчэ досвіткам, завёў яго ў лясок і схаваў. Там мы прасядзелі, пакуль прайшоў дзень ураджаю, а зараз...



— А зараз,—шумна падхапілі калгаснікі,—казёл твой, глядзі за другам сваім і гадуй. Гэта падарунак табе ў гонар добрага ўраджаю,—пачуліся вясёлыя галасы з усіх бакоў.

## ГАРБУЗ

*Алесь Бачыла*

Прайшла вясна.
І з цёплым летам
Для нас не ў першыя разы
Тут зацвіталі жоўтым цветам
Ў гародзе нашым гарбузы.

Мы іх глядзелі, гадавалі,
Каб потым з завяззю густой
Яны, маленькія, ляжалі
І ў баразне й за баразной.

І мылі іх дажджы густыя,
Паліла сонца з вышыні,
Пад вечар промні залатыя
Іх украшалі ў цішыні.

Так і раслі. А дні за днямі
Міналі ў клопатах другіх,
І мы не зналі нават самі
Аб лёсе саджанцаў сваіх.

Пазней прышлі, калі ўжо восень
Палі ўбірала жаўцізной,
Каб там пабачыць, што прыносіць
Яна для нас такой парой.

І ўсе мы ўбачылі ля хаты
Не ў дзіўным сне, а на яве,—
Гарбуз, як зебра, паласаты
Ляжаў спакойна у траве.

# Першы дзень у школе.

О. МАЧАРАДЗЕ

Рыс. М. КАРПЕНКО



Другое верасня—першы дзень вучобы ў школе. Колькі радасці! Бадзёрыя, загарэлыя, спяшаюцца рэбяты ў сваю любімую школу, у свой клас. Ласкава сустракаюць вучняў настаўнікі. Яны-ж два месяцы іх не бачылі.

Перапыняючы адзін другога, пытаюць рэбяты, як хто правёў лета.

— Ніна, ты ездзіла з мамай на Каўказ?

— Кажуць там зоркі на небе такія вялікія, куды больш за нашыя, ці праўда?

— А я Чорнае мора бачыў.—Ух, якое страшнае. Увесь час шуміць і чайкі над ім лётаюць,— птушкі такія.

— Мы з Мішам у вёсцы адпачывалі, бусла на балоце бачылі, дзюба ў яго доўгая. Стаіць на адной назе і выглядае лягушак.

— А я з бацькам у Заходняй Беларусі быў на курорце ў Друскеніках,—чулі пра такое месца?

Гэта ў трэцекласнікаў, а ў першых класах зусім ціха. Тут сабраліся рэбяты, якія ўпершыню пераступілі парог школы. Яны прышлі ў суправаджэнні бацькоў. Усё іх цікавіць: новыя, пафарбаваныя ў чорны колер парты, вялікая чорная дошка на сцяне—аж блішчыць. У класе светла, утульна, на вокнах кветкі, а з партрэтаў ветліва ўсміхаюцца ім Ленін і Сталін.

У кожнага вучня ў руках партфельчык або сумка і на кожным надзета што-небудзь новае: сукенка, бацінкі ці яркая істужка, наўмысля купленая мамай к гэтаму дню.



Пастулова рэбяты знаёмяцца.

— А мне дзядзя пенал падарыў,—кажа Валя Жану, але Жан здзіўлена глядзіць на яе.

— Пенал? А я не ведаю, што гэта такое.

— Не ведаеш,—здзіўляецца ў сваю чаргу Валя.—Ну, гэта такая скрыначка, у якую кладуць пер'е і ручкі. Не разумееш? Хочаш пабачыць?— Яна расчыніла партфельчык і выняла прыгожы блакітны, з кветкамі, пенал.

— Вось які.

Валю і Жана акружаюць рэбяты. Усе хочуць пабачыць.

— Што пенал! Мне папа фотаапарат падарыў,—ганарліва заяўляе Борык.

Званок. Рэбяты пакінулі размовы і хутка па-

селі за парты. У клас увайшла Тацяна Ільінічна. Пачаўся першы ўрок.

— Цікава ведаць, колькі ў нас вучняў?—запытала настаўніца.

— Я скажу, я!—зашумелі рэбяты.

— Не, дзеці, усім адразу гаварыць нельга.— Хто хоча сказаць?—няхай падыме руку.

— Ну, Гарык, палічы ты.

Гарык смела падняўся з свайго месца і пачаў лічыць.

— 32 вучні,—упэўнена адказаў ён.

Тацяна Ільінічна праверыла. І сапраўды 32.

— Цёця, а я пісаць і чытаць умею, мяне мама навучыла,—гаворыць Ізя.

— А я аж да 100 лічыць магу,—перапыняе яго Толік.

— А я нічога не магу,—сказала Таня.

— Рэбяты, вы-ж цяпер вучні і сваю настаўніцу трэба называць Тацяна Ільінічна,—не забывайцеся. А чытаць, пісаць і лічыць мы ўсе навучымся.

— Ну, вось і перапынак. Цяпер, рэбяты, вы можаце пабегаць па двары, а хто хоча—пойдзем вадзіць карагод,—прапанавала настаўніца.

— Хочам, хочам,—зашумелі рэбяты і пабеглі з класа.

Пазней за ўсіх пайшоў Пеця. Ён доўга збіраў у сумку кніжкі, сшыткі, снеданне. Сумку павесіў праз плячо, а снеданне трымае ў руках.—Здаецца ўсё захваціў. Каля дзвярэй спыніўся. Успомніў, што забыў каляровыя алоўкі і альбом для малюнкаў. Ён вярнуўся, каб узяць.

— Куды-ж ты сабраўся, дамоў яшчэ рана,— запыталі мы, а ён апусціў галаву і нічога не гаворыць.

— Ну, скажы?

— Я баюся, каб не ўкралі,—ледзь чутна прашаптаў ён.

— Не бойся, ніхто не ўкрадзе, у школе будзе цэла.

— Пакладзі ўсё ў парту, бо табе цяжка будзе бегаць.

Пеця недаверліва паглядзеў на нас, нехаця паклаў у парту сумку і альбом і пабег на двор.

Зноў званок. Непрыкметна прайшлі яшчэ тры ўрокі, а к канцу апошняга ўрока за рэбятамі прышлі бацькі. Па дарозе дадому дзеці весела расказвалі ім аб першым дні, праведзеным ў школе.










# ТАВАРЫШЫ

**Ш. БРЭГМАН**

Рыс. АСТАПОВІЧА

Хаім рос без бацькі. Звычайна звалі яго «Хаім, Голды-хлебапёка сын», таму што маці яго займалася выпечкай хлеба.

Вось пры якіх абставінах мы пазнаёміліся. Я прыехаў з вёскі, і ва ўсіх шасці кішэнях майго пінжака і штонікаў я меў толькі пяць капеек. Яшчэ меў я пры сабе торбачку, а ў торбачцы дзве кашулі з грубога вясковага палатна і буханку хлеба.

Прыехаў я ў горад раніцой у марозны зімовы дзень. Злезшы з саней, я пеша пайшоў да дзядзькі, які жыў на ўскраіне.

Спачатку я ў іх быў яшчэ госцем. Цётка накарміла мяне бульбай, крупнікам і ўсё распытвала пра нашых.

Я пра ўсё ёй расказаў і адчуваў сябе як дома. Я крыху адпачыў і вышаў у горад. Хаця я меў яшчэ амаль буханку хлеба і пяць капеек, усё-ж я шукаў месца, дзе можна было-б што-небудзь зарабіць, каб падтрымаць сябе надалей і не сядзець на карку ў дзядзькі.

На рагу, дзе жыла Голда-хлебапёк, я спыніўся. Не ведаю чаму: ці таму, што туды ў двор балаголы везлі дровы і там скідалі іх і зноў выязджалі, ці таму, што з дзвярэй вырываўся на вуліцу пах толькі што выпечанага хлеба, але далей я не пайшоў.



Быў я хлапчук рослы, здаровы. У трынаццаць год я быў падобен да семнаццацігадовага. Я стаяў сабе на рагу вуліцы ў задуменні і пазіраў на двор, які быў завалены бярозавымі і альховымі паленнямі.

Я падышоў бліжэй. Жанчына адчыніла фортачку і запытала мяне:

— Хочаш зарабіць, хлапец? Заходзь у двор, дапаможаш занесці ў сенцы дровы.

— Хачу,—адказаў я і хуценька пайшоў у двор.

— Ну, вось,—звярнуўся да мяне хлапец маіх год, з белым тварам, з вачыма колеру хлебнага квасу.—Гэтыя дровы мы занясем у сенцы і складзем у шуркі.

— Добра,—сказаў я,—дапамагу.

— А колькі мы за гэтую працу папросім?—спытаў мяне белатвары хлопец,— кажы, колькі?

— Колькі дадуць, столькі і возьмем,—адказаў я яму і падумаў, што такі адказ здаволіць майго таварыша.

— Мама, — звярнуўся ён да жанчыны ў белым фартуху,—хлапец хоча за работу сорак капеек, заплаціш?

Я стаяў і з апушчанымі вачамі глядзеў на свае парваныя лапці, носам лавіў прыемны пах толькі што змазанага гарачага хлеба і думаў:

— Сорак капеек, цэлы капітал...

— Многа,—заявіла жанчына,—не дам столькі, людзі гэтулькі зарабляюць за цэлы дзень, а вы хочаце за некалькі гадзін...

— Мама,—супярэчыў хлапец—гэта на дваіх, яму дваццаць і мне дваццаць...

— Добра ўжо,—згадзілася жанчына,— ты, Хаімка, заўсёды адносішся да мяне, як да чужой...

Хаім працаваў спрытней за мяне: ён быў здаравейшы і, відаць, прывыкшы да цяжкай працы. Ён насіў па чатыры, па пяць пален адразу, а я мог падняць толькі два ці тры, не больш... Ён гэта бачыў, але нічога не гаварыў, толькі ўхмыляўся. З поўгадзіны мы працавалі моўчкі, толькі час-ад-часу ён паглядаў на мяне сваімі празрыстымі вачамі і на яго вуснах разлівалася ўхмылка.

Мы ўжо занеслі палову дроў і склалі іх у два рады. Я ўспацеў. Хаім прыкмеціў маю стомленасць, пакруціў галавой і спытаў:

— Стаміўся, рабацяга?

— Не вельмі,—адказаў я збянтэжана,—ды і можна адпачыць, а потым з новымі сіламі ўзяцца за справу...

— Дзе ты спіш? дзе ты харчуешся? хто мые тваю бялізну? хто залатае тваю кашулю, калі парвецца?..

— Пакуль што я жыву ў дзядзькі, супроць гільзавай фабрыкі.

— Калі так, то будзеш у нашай хэўры, мы гуляем у салдаты, ваюем супроць панскіх сынкоў...

Ён расказаў мне, як яны збіраюцца, маршыруюць кожную суботу днём. Хутка мы вярнуліся і зноў узяліся за працу.

— Не будзем спяшацца, рабі павольна, усё роўна няма куды дзецца, няма дзе часу праводзіць.

Набліжалася ноч, калі мы з ім скончылі насіць дровы—і ўвайшлі ў хату. У каморцы было ціха, маці Хаіма спала.

— Бася, дай хлопцу сорак капеек, мама з ім умовілася,—сказаў Хаім.



— Мама спіць,—адказала сястра яго.— Няхай прыдзе заўтра.

— Не, не,—упарта гаварыў Хаім,—ён чэсна зарабіў, аддай яму плату зараз.

Дзяўчына вышла ў другую каморку, хутка вынесла адтуль грошы і аддала Хаіму.

— На,—сказала яна,—падзяліцеся.

Мне стала вельмі цёпла і я не адчуваў стомленасці, калі манеты апынуліся ў маіх руках. Я палажыў іх у кішэню, развітаўся і пайшоў. Хаім вышаў праводзіць мяне.

— Спакойнай ночы,—сказаў ён на развітанне.—Не забудзь, у суботу, пасля абеда... На тартак, будзем ваяваць, біць панскіх сынкоў...

Прайшло тры гады. Мне споўнілася семнаццаць год. Мы з Хаімам моцна здружыліся, але ў салдаты больш не гу-

лялі, не маршыравалі з кіямі на плячах замест вінтовак... Мы з Хаімам вучыліся страляць з сапраўдных рэвальвераў. Мы збіраліся на могілках у самае глухое месца, сярод помнікаў, дзе густа раслі высокія дрэвы. Мы вучыліся страляць, каб, калі спатрэбіцца, страляць у сваіх ворагаў-буржуяў. Мы ўжо траплялі ў дно бутэлькі. Хаім аднойчы трапіў нават у горла бутэлькі.

У нашай арганізацыі яго заўсёды называлі «Хаімка». Калі трэба было дзе-небудзь арганізаваць стачку, дык пасылалі туды Хаімку; раскідаць большэвіцкія лістоўкі перад Першым Маем—ізноў Хаімку.

Мы з ім жылі душа ў душу. Разам спалі летам у іх на чардаку. Разам купаліся, абаранялі адзін другога ў час небяспекі, калі знаходзіліся ў тайнай друкарні ці вартавалі сход.

Голда-хлебапёк хваліла мяне:

— Які слаўны хлапец! Нядаўна яшчэ быў малым...—і яна ўспамінала, калі я з Хаімам складалі ў сенцы дровы ў дзень нашага першага знаёмства.

Была асенняя шэрая раніца. Пасярод вуліцы—гразь, балота. Заплаканае неба вісела над закураным горадам, людзі, якіх я ў тую раніцу сустракаў, глядзелі на мяне са здзіўленнем, гаварылі са мною неяк не так, як заўсёды, і нібы даўно мяне не бачылі.

Я гэта прыкмеціў, хацеў у знаёмых даведацца, чаго на мяне так глядзяць, але ніхто не хацеў мне гаварыць, і я пайшоў на работу.

У часе абеду я разам з іншымі рабочымі вышаў з фабрычных варот. Мне давялося ісці міма хаты Голды-хлебапёк. Па прывычцы я заглянуў у акно, думаў, што Хаім дома, прывітаюся з ім і пайду абедаць, каб хутка вярнуцца на фабрыку, не спазніцца на работу.

Але Хаіма я не ўбачыў. Як у самы першы раз, калі я спыніўся ля гэтага дома і мяне паклікала Голда, яна стаяла з закасанымі рукавамі.

Я сказаў ёй «дзень добры!» Яна мне не адказала. Я заўважыў, што ў яе дрыжаць вусны, міргаюць павекі... Я пастаяў, а потым падышоў бліжэй:

— Што здарылася, Голда?—спытаў я ўсхваляваны.—Хтосьці захварэў? дзе Хаім?

Голда заламіла рукі і загаласіла. Я ўвайшоў у хату. Старшая сястра Хаіма, Фрадл, ляжала з апухшымі вачамі і ўздыхала. Хрыплым голасам праз слёзы Голда ледзь вымавіла:

— Хаіма... но-оччу...

— Не разумею,—звярнуўся я да Фрадл,—што з Хаімам?

— Забралі яго, знайшлі рэвальвер...—і расплакалася.

Я цікавіўся, дзе ён знаходзіцца, каго яшчэ арыштавалі і калі апамятаўся, то ужо чуцен быў гудок, які загадваў зноў станавіцца за работу.

Галодны я бег на фабрыку і перада мной усё стаяў вобраз Хаімавай маці з дрыжачымі вуснамі, з міргаючымі павекамі і заламанымі рукамі.





# ЖАЎРАНАК

СТАСЬ КАЦУБО

Рысункі А. ШАХРАЯ

З-за гумна вышаў дзед Янка і, час-ад-часу пагладжваючы сваю сівую бараду, весела памахваў пужкай. Да яго падышоў брыгадзір Кузьма і сказаў:

— Дзед Янка, запражыце, калі ласка, коней і з'ездзіце за Вялікае балота; дабарануйце там шматок зямлі з пасеянай пшаніцай, а то трактарам там дрэнна завярнуцца.

— Добра,—адказаў дзед Янка.

Ён запрог калгасных коней Гнядога і Каштана, якіх ён вельмі любіў. Паклаўшы на калёсы дзве жалезныя бараны, выехаў з калгаснага двара.

На вуліцы дагнаў яго Сцёпка.

— Дзядулька, куды едзеш?

— Поле баранаваць. Хіба не бачыш, што дзве бараны на калёсах ляжаць.

— Дзядулечка, і я з табой паеду,—папрасіўся Сцёпка.

— А ў школу?..

— У нас сягоння выхадны дзень, а ўрокі я яшчэ ўчора зрабіў.

-- Калі так, дык сядай. Памагаць будзеш дзеду.

Сцёпка сеў на калёсы і яны паехалі. На полі, за вёскай, гудзелі трактары. Дзед сядзеў на возе, пакурваючы люльку. Цёплы, пяшчотны ветрык казытаў сівую дзедаву бараду. Сцёпка сядзеў нерухома, прыслухоўваючыся да вясёлых птушыных спеваў. Вось адарваўся ад зямлі шэранькім клубочкам жаўранак і, хуценька махаючы сваімі крыльцамі, падымаўся ў паветра спяваючы:

— Ціль-лі!.. Ціль-лі!.. Ціль-лі-лі!..

І гэты тоненькі, як струна, галасок звінеў радасна, вітаючы прыгожае, майскае ранне.

— Но-о-о!..—пагражаючы пужкай, паганяў дзед коней.—А вось і Вялікае балота.

Сцёпка павярнуўся тварам да Вялікага балота, на якім шамацела ад вясенняга вецярка асака і глядзелі ўгору жоўтыя кветкі; лягалі кулікі і бакасы.

Раптам над балотам паднялася трывога: балотныя жыхары адрываліся ад купін і з крыкам падымаліся ў паветра. Далятала прыглушанае:

— Кар-р-р... Кар-р... Кар!..

— Гэта яны варону б'юць,—сказаў дзед.

— А за што яны б'юць яе, дзядулька?

— Вядома, за што. Вароны п'юць птушыныя яечкі і ядзяць маленькіх птушанят. Яны гуртом і гоняць яе прэч.

Прыехаўшы да назначанага месца, дзед Янка пачаў баранаваць, а Сцёпка збіраць кветкі.

Пабаранаваўшы ўпоперак узаранага, дзед пачаў баранаваць уздоўж. Услед за ім, важна пагладаючы па баках, хадзілі вароны. Але нечакана з-пад ног старога выскачыў маленькі жаўранак. Распусціўшы крыльцы, ён кружыў па полі, паглядаючы на дзеда.

Дзед Янка нагнуўся над купінкай, з-пад якой выскачыў жаўранак, і ўбачыў маленькую ямачку, старанна выкладзеную сухой травой, карэньчыкамі і валаскамі. Гэта было гняздо жаўранка. Яно было засыпана пяском. У ім ляжалі тры бездапаможныя цельцы і адно шэрае яйка.

— Бач, раннія... А я, стары дурань, і не гляджу пад ногі.

Дзед асцярожна ўзяў у рукі гняздо, выняў з яго птушанят, вытрусіў з гнязда пясок і зноў паклаў у яго птушанят. Птушаняты шырока разяўлялі свае жоўтыя роцікі, просячы есці.

— Што, есці захацелася?—ласкава гаварыў дзед.—Пачакайце трошкі, зараз маці прынясе. Эй, Сцёпка!

— Я тут!—адгукнуўся з кустоў Сцёпка.

— Хадзі сюды.

Сцёпка, трымаючы ў руках кветкі і бярозавую галінку, падбег да дзеда.

— Паглядзі вось маленькіх. Гэта жаўранак.

Сцёпка нагнуўся і пачаў разглядаць птушанят.

— А якія яны прыгожыя... Глядзі, яшчэ сляпыя. І роцікі разяўляюць, есці хочуць.

— Хадзем, Сцёпка. Ім маці зараз чарвяка прынясе.

— Дзядулька, я гэтую галінку тут пастаўлю, каб пасля яшчэ паглядзець.

— Пастаў сабе,—згадзіўся дзед.

Дзед адышоў ад гнязда і, завярнуўшы коней, паехаў па полі, а Сцёпка застаўся гуляць каля воза.

— Но, малойчыкі!..—паганяў дзед.

Барануючы поле, дзед Янка часта паглядаў на гняздо. Стары жаўранак, крадучыся, нёс сваім дзеткам чарвяка. Дабегшы да гнязда, ён сеў у яго. Калі дзед пад'язджаў блізка да гнязда, жаўранак паварачваў сваю шэранькую галоўку і глядзеў на дзеда сваімі чорнымі вочкамі, быццам дзякаваў яго. Сонца павярнулася к абеду. Дзед Янка, дабаранаваўшы, запрагаў коней у калёсы.

— Ну, Сцёпка, паедзем дадому.

— Я, дзядулечка, збегаю пагляджу яшчэ раз птушанят.

— Бяжы, толькі хуценька.

Сцёпка пабег па полі да зялёнай галінкі, з завяўшымі цяпер ад сонца маладымі лісточкамі. Ён убачыў здалёк варону, якая падкідвала гняздо сваім чорным дзюбам. Сцёпка закрычаў і пабег яшчэ хутчэй. Варона ўзнялася і паляцела. Сцёпка, засопшыся, дабег да гнязда. Гняздо было раскідана, а маленькіх птушанят паела ненажэрная варона.



Недалёка ад гнязда стаяў жаўранак, паглядаючы на Сцёпку сваімі чорнымі вочкамі, у якіх блішчэлі слёзы. Сцёпку шкада стала маленькіх птушанятак. Ён не вытрымаў і, заплакаўшы, пайшоў да воза.

— Ты чаго плачаш? Можа нагу пакалоў?—пытаўся дзед.

— Н-е...—скрозь слёзы гаварыў Сцёпка.—Варона паела птушанят... Шкада маленькіх...

— Шкада то шкада, але нічога,—супакойваў дзед,—яна яшчэ выведзе. А ты не плач, унучак, а вучыся цяпер, з дзяцінства, пазнаваць добрае і дрэннае, злых і добрых.

Яны селі на воз і паехалі. Сцёпка сядзеў моўчкі з заплаканымі вачыма і думаў:

«Як вырасту вялікім, куплю сабе ружжо, як у дзеда, і пастраляю ўсіх гэтых праклятых варон, якія знішчаюць бязвінных і карысных для чалавека птушак».

Сонейка ласкава кідала залацістыя праменні на шырокае калгаснае поле. Над полем весела спявалі жаўранкі.

Я. АДАМ

Рыс. А. Астаповіча




# Вялікі вынаходца



К. Цыалкоўскі

У клас увайшоў настаўнік.

— Рэбяты! Заўтра вы павінны прыйсці ў школу раней, чым заўсёды. Апраніцеся дома пацяплей і папярэдзьце бацькоў, што некальк! дзён вас дома не будзе. Мы з вамі адправімся ў экскурсію на Луну. Паляцім мы на апараце, які многа год назад прыдумаў Цыалкоўскі—вялікі рускі вучоны і вынаходца.

Гучным „ура" сустрэлі вучні прыемнае паведамленне. Радасныя, усхваляваныя, акружылі яны настаўніка, распытваючы аб незвычайным падарожжы.

Калі-ж, дзе, у якой школе адбылася гэтая падзея? Вы, напэўна, ужо здагадаліся, што гэта выдумка, фантазія, што гэтага яшчэ не было. Пакуль-што чалавек не можа паляцець на Луну. Але ў будучым, магчыма, палёт на Луну будзе такім-жа звычайным для чалавека падарожжам, як цяпер, напрыклад, паездка з Мінска ва Уладзівасток. І людзі тады будуць з удзячнасцю ўспамінаць таго, хто першы паказаў чалавеку правільны шлях у неба, у сусветную прастору — Канстанціна Эдуардавіча Цыалкоўскага.



Будучы вынаходца нарадзіўся ў верасні 1857 года ў сяле Іжэўскім (былой Разанскай губерні) у сям'і ляснога служачага. Маленькі Косця быў жвавым, смелым хлапчуком. Ён вельмі любіў розныя прыгоды і зайздросціў героям кніжак Жуль-Верна, якімі ён захапляўся. Ён лазіў на дрэвы, на дахі, скакаў з вышыні, добра плаваў. Быў лоўкім на ўсякія зацеі. Любіў выдумляць фантастычныя гісторыі і нават плаціў свайму малодшаму брату, каб той слухаў іх. Лепш за ўсіх рабіў ён паветраныя змеі, на якіх падымаў у запалкавай каробцы пасажыра-таракана.

Калі яму ішоў адзінаццаты год, пасля цяжкай хваробы ён амаль поўнасцю страціў слух, зрабіўся глухім. Гэтае вялікае няшчасце аказала ўплыў на ўсё далейшае жыццё Цыалкоўскага. Вучыцца ён у школе ўжо не мог, так што да 14-ці год ведаў толькі простую грамату. Але хлопчык яшчэ больш палюбіў кнігі, якія зрабіліся яго лепшымі прыяцелямі.

Аднойчы, капаючыся ў бацькоўскай бібліятэцы, Канстанцін натрапіў на падручнік па арыфметыцы. Ён зацікавіўся ім, пачаў чытаць. Аказалася, што ён вельмі добра разумее прачытанае. З таго часу пачаў многа займацца. Дзякуючы сваім здольнасцям, сваёй настойлівасці і працавітасці праз два—тры годы ён ужо добра ведаў матэматыку, фізіку, прыродазнаўства, хаця вывучаў іх самастойна, па кніжках, без дапамогі настаўніка. Не пакідаў ён і майстэрства: зрабіў многа складаных механізмаў— рухавік, гадзіннік, токарны станок і нават невялікі паравы аўтамабіль! Гэта было першае вынаходства Цыалкоўскага.



Вучобу, без школы і без настаўнікаў, ён паспяхова працягваў у Маскве. Аб гэтых годах Цыалкоўскі пісаў: „Добра памятаю, што, акрамя вады і чорнага хлеба, нічога не было. Я пражываў











тады 90 капеек у месяц". Але гэта не перашкодзіла маладому Цыалкоўскаму самастойна аўладаць многімі вельмі складанымі навукамі і падрыхтаваць сябе да далейшай навуковай і вынаходніцкай дзейнасці.

Вярнуўшыся з Масквы, Цыалкоўскі стаў настаўнікам і працаваў у школе больш 40 год, спачатку ў горадзе Бароўску, а потым у Калузе, дзе і жыў да канца сваіх дзён. Ён быў выдатным педагогам, не гледзячы на сваю глухату, і вучні заўсёды вельмі любілі і паважалі свайго Канстанціна Эдуардавіча. Увесь свабодны ад школы час ён аддаваў вынаходніцкай і навуковай рабоце.

Яшчэ з малых год Цыалкоўскага захапіла думка: як заваяваць паветра, як навучыцца добра лятаць. У тыя часы яшчэ не было ні аэраплана, ні планера, ні дырыжабля. Падымаліся ў паветра толькі на аэрастаце—так называўся вялікі паветраны шар, напоўнены лёгкім газам. Але кіраваць ім людзі не маглі. Аэрастат імчаўся туды, куды яго гнаў вецер. Карысці ад яго было мала. І вось Цыалкоўскі прапанаваў зрабіць металічны аэрастат. Абалонка ў форме яйка ці сігары, зробленая з метала, будзе напаўняцца лёгкім газам. Магутныя рухавікі будуць вярцець вінты—прапелеры. Такім апаратам можна будзе кіраваць, паляціць ён далёка і хутка, падыме многа груза і людзей, будзе выгодным для карыстання. Усё гэта даказаў Цыалкоўскі. Многія годы марыў ён аб пабудове такога дырыжабля (так потым сталі называць кіруемыя аэрастаты), але не знайшоў дапамогі і падтрымкі ў царскай Расіі. Яму не верылі, нярэдка смяяліся, здзекваліся над ім. Так ён нічога і не дабіўся. Немцы праз некалькі год пачалі будаваць дырыжаблі, але значна горшыя, чым прапанаваў Цыалкоўскі, не з метала. Першы металічны дырыжабль Цыалкоўскага быў пабудаваны толькі пры савецкай уладзе.

Другім важнейшым вынаходствам Цыалкоўскага з'яўляецца „зоркалёт". Ужо даўно марылі людзі аб палётах на Луну, на іншыя планеты, да зорак. І вось Цыалкоўскі першы прапанаваў скарыстаць для гэтага ракету. Ён паказаў, якім павінен быць гэты апарат „зоркалёт". Пакуль што навука і тэхніка яшчэ не дасягнулі дастатковага ўзроўня, каб пабудаваць такі апарат і ажыццявіць палёт з Зямлі. Але гэта будзе зроблена ў будучым.

Яшчэ многа вынаходстваў прыдумаў геніяльны самавучка, многа новых думак выказаў ён, многа зрабіў ён для навукі.

Цяжка было Цыалкоўскаму жыць і працаваць у царскай Расіі. Колькі пакут прышлося яму перанесці!

Савецкая ўлада стварыла Цыалкоўскаму ўсе ўмовы для работы. Яго ўзнагародзілі двума ордэнамі. Вялікая радзіма акружыла аднаго з лепшых сваіх сыноў клопатамі і ўвагай. Але Канстанціну Эдуардавічу было ўжо каля 80-ці год. Ён захварэў. Пяць год назад, 19 верасня 1935 года, яго не стала.

За некалькі дзён да смерці ён звярнуўся да таварыша Сталіна з пісьмом. Таварыш Сталін адразу-ж адказаў яму. Глыбока ўсхваляваны падбадзёрваючымі словамі правадыра, Цыалкоўскі тэлеграфіраваў таварышу Сталіну: „Тронут вашей телеграммой. Чувствую, что сегодня не умру. Уверен, знаю—советские дирижабли будут лучшими в мире. Благодарю, товарищ Сталин, нет меры благодарности".

Апошняй думкай выдатнага рускага вучонага Цыалкоўскага была думка аб сваёй радзіме, аб яе славе і магутнасці, аб яе вялікім правадыру.



Рысунак Тані Вілюшкевіч 8 год
г. Віцебск



Працоўныя Заходняй Беларусі оустракаюць нашу Чырвоную армію.
Рысунак Рыгора Говарава. 9 год.
Стрэшынскі р-н. Кароткавіцкая школа.

# АПЛІКАЦЫЯ

Можна рысаваць фарбамі, алоўкамі, маслам, акварэллю, рознакаляровымі чарніламі і тушшу, вугалькамі і г. д. Але можна таксама рысаваць і наклеенымі кавалачкамі паперы або матэрыі.

Дастаньце рознакаляровую матавую або глянцавую паперу, нарысуйце контуры якога-небудзь пейзажа або партрэта і замест фарбаў наклейце выразкі рознакаляровай паперы.

Каб стварыць аплікацыйны рысунак, які мы прыводзім ніжэй, трэба выклеіць мора цёмна-сінім колерам, хвалі—чорным, неба—блакітным, хмары—шэрым, корпус лодкі і сцяжок—чырвоным, а парусы—белым колерам.

Спрабуйце гэта зрабіць і вы ўбачыце, якая прыгожая карцінка ў вас атрымаецца.

Калі вы ўмееце вышываць, то замест паперак наклейце каляровыя кавалачкі матэрыі і вакол абмятайце ніткамі.

Рэбяты, спрабуйце зрабіць такія карцінкі на любыя тэмы і свае работы прышліце да нас у рэдакцыю. Мы адбярэм лепшыя з іх і надрукуем у журнале.



Рэдактар А. В. Бярозкін. Афармленне М. Свяцкага. Адрас рэдакцыі: Мінск, Дом Друку
Друкарня імя Сталіна. 20000. экз. Зак. 2719. 2½ друк. арк. У3942.

